**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 34 (907) 24 жніўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**19 жніўня, в. Порплішча, царква Праабражэння Гасподняга. Яблычны Спас на юбілей самай старажытнай драўлянай царквы Беларусі, пабудаванай у 1627 г. Евангелле чытае айцец Віктар, за ім – архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій.** *Фота Міколы Чачуковіча.*



ISSN 2077-8023



## Аршанскі раён

# За клас новы “Claas”

■ Станіслаў Раманчук.

**Наша паўночная Віцебская вобласць пазней за іншых уключылася сёлета ў жніво і, нягледзячы на высокую вільготнасць зерня, даволі арганізавана правяла ўборачную кампанію.**

Як і раней, лепшым у Прыдзвінні па намалотах стаў Аршанскі раён, дзе гібрыднага жыта атрымалі амаль пад 100 цэнтнераў з гектара. Практычна ўсе гаспадаркі краю стараліся ўбраць вырашчаны хлеб без страт, бо для людзей, працуючых у полі, гэта выдатная магчымасць адчувальна папоўніць сямейны бюджэт. На многіх палях Аршаншчыны сёлета намалачвалі таксама ад 70 да 90 ц/га. Праўда, у сапернiцтве з іншымі камбайнерамі вобласці аршанцы сёлета саступілі, бо першы экіпаж, які намалаціў тысячу тон збожжа ўраджаю-2017 з’явіўся ў Лепельскім раёне. Гэта і не дзіўна, бо механізатары з холдынга Віцебскага мясакамбіната працавалі на сучасным бельгійскім камбайне New Holland, вельмі папулярным у еўрапейскіх фермераў. Аднак літаральна праз лічаныя дні на аршанскіх землях радаваліся сваім перадавікам, бо першы ў раёне і другі ў вобласці экіпаж тысячнікаў з’явіўся ў сельгасфіліяле мясцовага камбіната хлебапрадуктаў, дзе ў гэты холдынг уваходзіць вядомы селекцыйна-гібрыдны цэнтр па вырошчванні свініны “Задняпроўскі”. Ураздозненне ад суседзяў, яго землі горшыя па прадукцыйнасці, аднак яны дабіліся ўраджайнасці пад 60 цэнтнераў. Тысячны рубеж намалотаў дасягнуў Сяргей Грэкаў на КЗС-1218. За гэта дасягненне глава вобласці ўручыў яму права на полі ключы ад новага нямецкага суперкамбайна “Claas”, які каштуе, як шыкоўны джып, але потым не падвodзіць цэлыя дзесяцігоддзі.

## Полацкі раён

# Рыхтавацца трэба загадзя

■ Кастусь Александровіч

**Удвух гарадах вобласці пройдуць неўзабаве значныя мерапрыемствы, першым у пачатку верасня ў трэці раз прыме Полацк Дзень беларускага пісьменства.**

У старажытным горадзе сёлета адзначаць адначасова 1155-годдзе з дня яго заснавання і 500-годдзе айчыннага кнігадрукавання. Палачане пачалі падрыхтоўку да маштабных святаў яшчэ летась вясной і таму справіліся з вялізным аб’ёмам работ, абнавілі амаль 350 розных аб’ектаў. Самымі значнымі сталі рэканструкцыя вуліцы Зыгіна на ўездзе ў райцэнтр з боку Расіі і рэстаўрацыя фасадаў Сафійскага сабора. Паблізу велічнага храма адкрыюць 2 верасня пяціметровы бронзавы манумент “Полацк – калыска беларускай дзяржаўнасці”. У Полацку за тры дні адбудзецца шмат значных падзей, сярод якіх Скарынаўская алімпіяда, прэзентацыя шэдэўра першадрукара “Малая падарожная кніжыца”, прэм’еры спектакля “Легенда пра Усяслава Полацкага” і сюіты кампазітара Ганны Кароткінай “Францыск Скарына” і шмат іншых. Святочныя пляцоўкі ў палачан расцягнуцца на тэрыторыі 10 км. А вось у які тэрмін пройдуць у Дуброўне абласныя “Дажынкі-2017”, пакуль дакладна невядома, хутчэй усяго, іх прыйдзецца перанесці на кастрычнік. Гэты райцэнтр напрыканцы лета яшчэ нагадвае суцэльную будаўнічую пляцоўку, з тэрмінамі заканчэння многіх работ будаўнікі, найперш будтрэста № 18 з Оршы спазняліся. Наватнапярэдадні новага навучальнага года яшчэ шмат аддзелачных работ і добраўпарадкавання тэрыторыі з яе асфальтаваннем не было закончана ў памяшканнях СШ № 1, дзіцячых садоў № 3 і 4, у школе мастацтваў і на новай дзіцячай гульнявой пляцоўцы. Кіраўніцтва вобласці загадала накіраваць сюды дадатковыя сілы спецыялістаў, каб не асароміцца напярэдадні Дня ведаў.

## Віцебск

# Паболей б такіх партнёраў

■ Чэслаў Якубовіч.

**Без надзейнага партнёрства са сваімі банкамі ніводная краіна свету не можа дынамічна развівацца і падтрымліваць устойлівасць сваёй нацвалюты.**

У Беларусі апошнім часам пайшоў угору Банк развіцця Беларусі, які быў створаны толькі 6 гадоў назад, аднак стаў ужо трэцім у краіне па аб’ёме актываў. Найбольш дынамічна гэты фінансавы інстытут супрацоўнічае з Віцебскай вобласцю, куды ўклаў 353 млн. рублёў інвестыцый. Яго работнікі днямі справілі наваселле і ва ўрачыстай абстаноўцы адкрылі ў абласным цэнтры свой сучасны прыгожы офіс. Прасторны пяціпавярховы будынак арыгінальнай архітэктуры з такімі ж вокнамі ўпрыгожыў новы мікраён у пачатку вуліцы Даватара. Паколькі меней чым за год у горадзе з’явіўся такі значны аб’ект, гэта засведчыла, што кіраўніцтва маладога банка на чале з адным з самых эфектыўных управаленцаў краіны Сяргеем Румасам прыйшло ў вобласць надоўга, мае тут вялікія інтарэсы, бо праблем з вяртаннем займаў няма. Найперш Банк развіцця падтрымлівае развіццё ў Прыдзвінні прамысловасці і перапрацоўкі прадуктаў харчавання, а таксама сацсферы. З яго дапамогай вобласць набыла 500 сучасных трактароў і камбайнаў, атрымала сродкі на будаўніцтва новых ферм і свінакомплексаў. Новыя крэдыты пойдуць на мадэрнізацыю мясакамбіната і МКК у Глыбокім, бройлернай птушкафабрыкі “Ганна”, на заканчэнне паліклінікі і новай гасцініцы ў Віцебску, іншыя праекты.

# Аб самым надзённым

## САМЫ БЛІЗКІ НЯДАЎНА СЯБАР І ПАРТНЁР БЕЛАРУСІ ЗА АКІЯНАМ – ВЕНЕСУЭЛА АПЫНУЛАСЯ НА ГРАНІ КРАХУ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Учарашні наш сябар і далёкі саюзнік ушчыльную наблізіўся да крывапралітнай грамадзянскай вайны, а сама Венесуэла апынулася ў палітычнай ізаляцыі нават сярод іншых лацінаамерыканскіх дзяржаў. Тым часам буйнейшыя авіякампані свету прыпынілі палёты ў Каракас. Падзеі разгортваюцца так, што цяпер большасць венесуэльцаў супраць пачатку дзейнасці так званай Канстытуцыйнай асамблеі.**

У наш дынамічны час могуць адбывацца за кароткі перыяд гісторыі проста неверагодныя і парадаксальныя рэчы. Вось і адна з самых багатых у свеце краін па запасах нафты ў Лацінскай Амерыцы – далёкая ад нас Венесуэла мае прыдатны клімат і ўсе шанцы стаць адной з багацейшых дзяржаў планеты. Аднак народ, адурманены палітыкамі левай арыентацыі, выбраў для сябе іншую долю, курс на “светлае сацыялістычнае” будучае, а ў выніку цяпер апынуўся на мяжы грамадзянскай вайны і поўнага эканамічнага краху. Для нас падзеі на другім канцы свету ў многім павучальныя, бо да таго ж да нядаўняга часу беларуска-венесуэльскія адносіны раслі па нарастаючай, а 5 гадоў назад узаемны тавараабарот дасягнуў рэкордных амаль 600 млн. долараў.

Папярэдні лідар Венесуэлы, адстаўны палкоўнік Уга Чавес ажыццяўляў візіты ў Беларусь практычна штогод, пачынаючы з першай паездкі ў 2006 годзе. Гэта краіна дапамагла беларусам яшчэ перад пачаткам першага сусветнага фінансавага крызісу ў 2008 годзе, калі прадаставіла нам патрэбны крэдыт у суме 0,5 млрд. USD. У сваю чаргу беларусы пабудавалі на амерыканскім кантыненце завод па выпуску беларускіх трактароў, а пазней адкрылі завод па зборцы айчыннай дарожна-будаўнічай тэхнікі. З Венесуэлы мы неяк спрабавалі дастаўляць даволі дарагую з улікам транспарціроўкі нафту. Лідары дзвюх краін сябравалі паміж сабой, іх аб’ядноўвалі погляды на жыццё, супрацьстаянне ціску Захаду і пазіцыі дзяржаўнай прыналежнасці ключавых відаў эканомікі.

Які ў нас, венесуэльскі лідар правёў рэферэндум аб зменах канстытуцыі, ён дабіўся права перавыбірацца неабмежавальную колькасць разоў. Аднак вось незадача, пасля выйгрышу ў трэці раз прэзідэнцкіх выбараў камандантэ Уга захварэў і неўзабаве памёр ад раку ва ўзросце 58 гадоў. Сваім пераемнікам ён зрабіў шафёра па спецыяльнасці Мікаласа Мадуру, пры якім эканамічная сітуацыя ў Венесуэле пачала імкліва пагаршацца, людзі ўжо 4 гады назад адчулі востры недахоп ежы, медыкаментаў, самага неабходнага для паўсядзённага жыцця. Многія венесуэльцы, асабліва моладзь, сталі пратэставаць супраць галечы і беднасці, не верылі афіцыйнай прапагандзе, якая тлумачыла існуючыя цяжкасці дзеяннямі знешніх ворагаў.

На самой справе гэта вылезла бокам ранейшая папулісцкая палітыка, праведзеная нацыяналізацыя важнейшых сфер эканомікі, найперш нафтаперапрацоўкі і канфрантацыя з магутнейшым суседам ЗША. З 2014 года ў гэтай далёкай ад нас краіне не сціхаюць акцыі пратэсту, якія ўлады жорстка падаўляюць, гінуць сотні людзей. Жыць там увогуле страшна, бо квітнее злачыннасць, правяць баль на вуліцах бандыты. Не дзіўна, што на парламенцкіх вввбарах 2015 года праз 17 гадоў перамогу святкавала апазіцыя, якая атрымала дзве трэціх дэпутатскіх месцаў. Папуліст Мадура яшчэ летась увёў у краіне надзвычайнае становішча, стаў кіраваць з дапамогай сваіх дэкрэтаў і ўказаў, фактычна пазбавіў парламент паўнамоцтваў.

Нягледзячы на гэта, абстаноўка ў Венесуэле яшчэ болей абвастрылася. Сёлета ўжо некалькі месяцаў там не сціхаюць акцыі пратэсту супраць дыктатуры. На вуліцах ліецца кроў, арыштаваны ўжо тысячы людзей. Дайшло да таго, што М. Мадура фактычна сілай разагнаў дзеючы парламент, замест яго арганізаваў псеўдавыбары ў так званы Устаноўчы сход і заклікаў узброіць паўмільёна сваіх прыхільнікаў для абароны інтарэсаў балівaрыянскай рэвалюцыі ад “тэрарыстаў-дэманстрантаў”, якія разам з ЗША рыхтуюць нібыта путч. У жніўні венныя, прыхільнікі Мадуры, адхілілі ад ўлады генпракурора краіны Л. Артэга, у ваенную турму даставілі папулярнага лідара апазіцыі Л. Лопеса і мэра сталіцы краіны Каракаса А. Ледэсму.

Учарашні наш сябар і далёкі саюзнік ушчыльную наблізіўся да крывапралітнай грамадзянскай вайны, а сама Венесуэла апынулася ў палітычнай ізаляцыі нават сярод іншых лацінаамерыканскіх дзяржаў. Тым часам буйнейшыя авіякампані свету прыпынілі палёты ў Каракас. Падзеі разгортваюцца так, што цяпер большасць венесуэльцаў супраць пачатку дзейнасці так званай Канстытуцыйнай асамблеі. Большасць заходніх краін і суседзяў краіны на кантыненце рэзка асуджаюць падзеі, што там адбываюцца, пачалі ўводзіць санкцыі. Еўрасаюз таксама не хоча мець ніякіх сувязей з дзеячамі рэжыму аднаасобнай улады, пры якіх рост цэн сёлета складзе 720 %, раней інфляцыя ўжо перавышала там тысячу працэнтаў.

“Балівaрыянскі сацыялізм” заканамерна ідзе да краху, бо нельга кіраваць 30-мільённай краінай непрафесіяналам, раздаваць бясконца грошы беднейшым слаям насельніцтва, якія асабліва і не хочуць добрасумленна працаваць. З асаблівай трывогай сочаць за падзеямі ў Венесуэле, што характэрна, у Крамлі, бо з цягам часу ілюзія чавісцкі рэжым рухне з трэскам. Услед за гэтым інтарэсы Расіі, асабліва “Раснафты” там моцна пацярпяць, многія кантракты і сувязі з рускімі могуць быць перагледжаны альбо зусім разарваныя. А вось беларусам у гэтай сітуацыі хвалявацца асабліва не трэба, разлічваць поўнасцю за раней пастаўленую нам нафту не прыйдзецца, бо наша краіна будавала там жыллё і нават аграгарадок, пастаўляла калійныя ўгнаенні, тэхніку і запчасткі да яе, а таксама сухое малако ўзамен на кофе.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 24.08.17 | | | | Пятніца 25.08.17 | | | | Субота 26.08.17 | | | | Нядзеля 27.08.17 | | | | Пн.28. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +12 | +12 | +12 | +11 | +12 | +16 | +15 | +14 | +14 | +18 | +13 | +10 | +12 | +16 | +12 | +12 |
| Ціск | 733 | 733 | 736 | 740 | 742 | 745 | 746 | 745 | 744 | 744 | 745 | 746 | 746 | 747 | 748 | 748 | 748 |
| Вецер м/сек | 10 Пн-З | 10 Пн-З | 10 Пн-З | 8 З | 6 З | 5 З | 5 Пд-З | 4 Пд-З | 5 Пд-З | 8 З | 8 З | 3 З | 3 З | 4 З | 5 Пн-З | 2 З | 2 З |
| Вільготнасць | 97 | 99 | 94 | 75 | 85 | 81 | 69 | 83 | 91 | 92 | 55 | 73 | 92 | 86 | 61 | 85 | 95 |

## Дзень за днём

**Польшча адмовілася купляць электраэнергію з Беларускай АЭС. На працягу года ў Беларусі можа запрацаваць іпатэчнае крэдытаванне. 500 гадоў назад беларус Францыск Скарына надрукаваў першую кнігу ва Усходняй Еўропе. Рынкі краіны пакінулі яшчэ 3,8 тысячы гандляроў. Конкурс на платнае навучанне ў БДУ склаў 1,5 чалавека на места. Дзясяткі беларусаў пацярпелі ад моцнай спякоты. На вучобу ў ВНУ Беларусі прынялі сёлета 53,5 тысячы першакурснікаў. У ліпені беларусы прадалі на 100 мільёнаў долараў болей, чым купілі. Для маладых беларусаў распрацавалі дзяржстандарт школьнага адзення дзелавога стылю.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Д. Трамп папярэдзіў улады КНДР ад новых пагроз амерыканцам, бо яны сустрэнуцца з агнём і сілай, якую яшчэ свет не бачыў, сітуацыя паміж краінамі крайне напружаная.

**КНДР.** Ваенныя краіны зноў паўтарылі сваю пагрозу запусціць ракеты сярэдняй далёкасці па раёне Ціхага акіяна, дзе размешчана амерыканская ваенная база на востраве Гуам.

**Венесуэла.** Большасць краін свету, за выключэннем Расіі, асудзілі спробу прэзідэнта М. Мадуры разагнаць парламент, гэты рэжым чакае непазбежны бясслаўны крах.

**Карэя.** У адказ на запуск новых ракет КНДР ЗША перакінулі ў краіну на авіябазу Кунсан са штата Вісконсін 12 самалётаў-знішчальнікаў і амаль 200 ваеннаслужачых.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі выступіў за тое, каб падвесці вынікі Другой сусветнай вайны, ацаніць страты краіны ў выніку нападзення нацысцкай Германіі.

**Германія.** Па апытаннях, папулярнасць правячага блока партый ХДС/ХСС на чале з А. Меркель яшчэ вырасла, на прадстаячых выбарах за іх прагаласуе 52 % выбаршчыкаў.

**Францыя.** У прыгарадзе Парыжа на аўтамабільнай трасе на поўнач краіны паліцыя раніла і затрымала 37-гадовага мужчыну, які на грузавіку наехаў на салдат групы антытэрору.

**Сербія.** Прэзідэнт А. Вучыч паскардзіўся, што вялікія дзяржавы Захаду ціснуць на краіну з-за блізкіх адносін з Расіяй, але і руская прапакоўць нас, што нешта не так робім.

**Польшча.** Экс-прэзідэнт Грузіі М. Саакашвілі заявіў, што пагроза страты незалежнасці Беларусі не знікла, бо Пуцін хоча прыхапіць яе сабе, з Лукашэнкам ці без яго.

**Украіна.** Самаабвешчаны кіраўнік так званай "ДНР" А. Захарчанка прызнаў, што новай дзяржавы пад назвай "Маларосія" не будзе, бо яна шмат у каго выклікала абурэнне.

**Іран.** Духоўны лідар краіны Аятала Алі Хаменеі зацвердзіў на пасадзе прэзідэнта 68-гадовага Хасана Рауханi, яго перавыбралі іранцы 57 % галасоў на другі тэрмін.

**Ватыкан.** Святы прастол пачаў вывучаць магчымасці арганізацыі візіту Папы рымскага Францішка ў Расію, у Маскву прыедзе глава Рымскай курыі да патрыярха Кірыла.

**Іспанія.** У разгар летняга сезона адпачынкаў прыхільнікі левых сталі пратэставаць супраць напліву турыстаў у Каталонію, хоць турызм – ключавая галіна яе эканомікі.

**ЗША.** Вучоныя з універсітэта Д. Вашынгтона выявілі, што жыццё на Зямлі зарадзілася 2,5-2,8 мільёна гадоў назад зусім не з-за глабальных змен клімату, як лічылася дагэтуль.

**Англія.** Расійскі алігарх Р. Абрамовіч (багацце 9,1 мільярда долараў) развёўся з трэцяй па ліку жонкай пасля 10 гадоў шлюбу, усяго ў яго сямёра дзяцей, з іх 5 – ад другой жонкі.

# Адзіныя дыспетчарскія службы ЖКГ 115 з'явяцца ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах Беларусі



■ БЕЛТА / TUT.BY

**Адзіныя дыспетчарскія службы ЖКГ 115 плануецца стварыць ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах Беларусі. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі начальнік аддзела па працы са зваротамі грамадзян і сродкаў масавай інфармацыі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Генадзь Аксіловіч, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

«Міністэрства настойвае на стварэнні такіх службаў у кожным абласным і раённым цэнтры нашай краіны, гэта значыць фактычна на ўсёй тэрыторыі рэспублікі», - праінфармаваў Генадзь Аксіловіч. Паводле яго слоў, стварэнне службы 115 разглядаецца ў рамках удасканалення работы са зваротамі грамадзян і забеспячэння належнага аказання паслуг спажыўцам. Дыспетчарская служба створана ў Мінску і Віцебску, фактычна пачала функцыянаваць у Барысаве. «Функцыянаванне гэтай службы паказала станоўчы вопыт у першую чаргу для спажыўца. Мы можам яго расцэньваць як адсутнасць неабходнасці пошуку тэлефонаў арганізацый, якія аказваюць тую ці іншую паслугу. Адпаведна, адсутнічаюць магчымасці ў арганізацый, якія аказваюць жыллёва-камунальныя паслугі, для маніпуляцый з прэтэнзіямі, іх утойвання, паколькі кантраляваць выкананне заявак грамадзян можна ў онлайн рэжыме», - дадаў начальнік аддзела. Генадзь Аксіловіч таксама спыніўся на працы ведамства са зваротамі грамадзян, якія, на яго думку, з'яўляюцца ўскосным паказчыкам якасці жыллёва-камунальных паслуг. Так, за першае паўгоддзе 2017 года іх колькасць у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года знізілася на 19% у цэлым па сістэме. Каля 50% тых, хто паступае зваротаў ставяцца да разраду атрымання кансультацый і тлумачэннямі па тых ці іншых пытаннях. Прадстаўнік міністэрства адзначыў, што зніжэнню колькасці зваротаў таксама спрыяла ўкараненне з 2014 года прэтэнзійнага парадку разгляду зваротаў спажыўцоў. У цяперашні час для арганізацый сістэмы ЖКГ адсутнічаюць 15-ці і 30-дзённыя тэрміны на разгляд зваротаў спажыўцоў па якасці аказваемых камунальных паслуг. «Зварот спажыўцоў па гэтых пытаннях павінен быць разгледжаны на працягу аднаго дня і меры рэагавання прыняты ў адпаведнасці з тэхнічнымі нарматыўнымі актамі. Як правіла, яны складаюць ад 1 да 7 дзён, а ў выпадку аварыі - неадкладна. Укараненне гэтага механізму дазволіла нам скараціць колькасць зваротаў у цэлым і забяспечыць належнае аказанне паслуг», - рэзюмаваў ён.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Ашмяны.** Адразу 13 былых работнікаў мясцовай мытні пакараў за хабар Мінскі абласны суд пазбаўленнем волі ад 5 да 11,5 гадоў з канфіскацыяй аўтамабіляў і грошай.

**Мінск**. На асноўным рынку збыту ў Расіі МАЗ апусціўся на 6-е месца па аб'ёмах продаж аўто, за паўгода там купілі 275 нашых грузавікоў, у РФ болей купляюць тэхніку з Захаду.

**Барысаў.** На перыяд жніва да канца жніўня на тэрыторыі раёна забаранілі продаж алкаголю ва ўсіх магазінах, размешчаных у сельскай мясцовасці, незалежна ад уласнікаў.

**Мінск.** За выезд з Беларусі ў Еўрапарламент без згоды Адміністрацыі прэзідэнта дэпутату парламента ад апазіцыі А. Канапацкай зрэзалі зарплату за два дні працы ў чэрвені.

**Гомель.** Прафесар-атамшчык Ю. Бандажэўскі папярэдзіў, што Чарнобыль нікуды не сышоў, наадварот на "брудных" землях ён стаў паводзіць сябе яшчэ больш агрэсіўна.

**Мінск.** Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч заявіла, што трэба аддаць належнае нашым уладам, бо яны не далучыліся да антыўкраінскага шаленства, у нас няма кашмару, як у РФ

**Вілейка.** Рассельгаснагляд абмежаваў пастаўкі прадукцыі з філіяла Маладзечанскага малкамбіната, увёў узмоцнены кантроль для вырабаў Гродзенскага мясакамбіната.

**Астравец.** Пагранічнікі затрымалі ля граніцы з Літвой двух школьнікаў ва ўзросце 16 і 17 гадоў, яны падчас канікул хацелі падзарабіць кантрабандай, у іх канфіскавалі 6 тысяч пачак цыгарэт.

**Мінск.** Пасля запрашэння пасла Польшчы К. Паўліка на гутарку ў МЗС Беларусі у пасольстве пацвердзілі, што палякаў цікавіць пытанне бяспекі БелАЭС па-за палітыкай.

**Любань.** Знакамітыя блакітныя азёры ў крэйдавых кар'ерах каля вёскі Хацінава перадалі ў арэнду прыватнай фірме з Егіпта, яна збіраецца абуладкаваць базу адпачынку з пляжам.

**Жодзіна.** Па факце гібелі двух нецвярозых падлеткаў ва ўзросце 16 і 17 гадоў, целы якіх знайшлі каля чыгункі ля горада, следства пачало разглядаць дзве прычыны іх смерці.

**Магілёў.** За працяглыя згвалтаванні ўзятых на выхаванне прыёмных дзяцей абласны суд пакараў бацьку з Мсціслаўя і яго роднага сына 14 і 19 гадамі пазбаўлення волі.

**Гродна.** Міліцыя адшукала і арыштавала 22-гадовага хулігана, які вечарам п'яны абстраляў з пнеўматычнага пісталета тралейбус і АЗС, ліхтары і рэкламныя шчыты.

**Мінск.** З дазволу ветслужбы прама на даху Чырвонага касцёла вядомы ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк абсталяваў пчолапасеку, сам ён вельмі актыўны пчаляр.

**Барысаў.** Па стане здароўя пасаду гендырэктара ААТ БАТЭ пакінуў Анатоль Капскі, але застаўся на пасадзе яго кіраўніка, клуба, чэмпіёна Беларусі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Перад пачаткам жніва з пасады главы раёна знялі Л. Пянькоўскага толькі праз амаль 3 месяцы пасля прызначэння, рэгіён узначаліў намеснік главы дзяржавы А. Пазняк.

**Бешанковічы.** Глава вобласці М. Шарстнёў пры прызначэнні новага кіраўніка раёна А. Булаўкіна прызнаў, што рэгіён і сёлета правальнае асноўныя параметры развіцця.

**Дубровна.** На падрыхтоўку аб'ектаў да абласных "Дажынак-2017" патрацілі ўжо 6,5 млн. рублёў, абнавілі СШ № 1, цэнтральную плошчу горада, на якой з'явіўся фантан.

**Віцебск.** Эканамічны суд вобласці прадоўжыў на 5 гадоў тэрмін санацыі камбіната шаўковых тканін, ён пачаў выбірацца з крызісу, асвоіў выпуск запатрабаваных тканін.

**Сянно**. З дапамогай прыватнай фірмы "БурТэхнаМантаж" упершыню ў Беларусі ў вёскі Рыбнае і Запаветнае, размешчаных ля возера, падвялі прыродны газ.

**Паставы.** Услед за шасцю грамадзянамі Пакістана пагранічнікі паблізу граніцы з Літвой затрымалі шматдзетную сям'ю з Афганістана, якая хацела нелегальна патрапіць у ЕС.

**Чашнікі.** Ноччу ў выніку ДТЗ Audi-80 з сям'ёй з двума дзецьмі ўрэзалася ў дрэва, ад удару загінулі 29-гадовы бацька і дачка 6 гадоў, маці з меншай дачкой атрымалі траўмы.

**Верхнядзвінск.** Ураганны вецер пакінуў практычна без даху ферму КУСХП "Асвейскі", дзе сарваў 230 кв. метраў шыферу, пацярпела майстэрня і ферма ў КУСХП "Лявонішана".

**Наваполацк.** Купаючыся ў возеры Люхава, патануў 51-гадовы мужчына, у якога пачаўся прыступ эпілепсіі, за тыдзень у вобласці ў вадзе загінулі 4 чалавекі, усяго сёлета – 30.

**Глыбокае.** Каб лепей жыць, вяскоўцы зноў сталі набываць жывёлу, пагалоўе кароў ва Удзелаўскім сельсавеце вырасла да 209, прыбавілася 76 коз і 57 авечак на панадворках.

**Браслаў.** У рамках міжнароднага праекта тэхнічнай дапамогі ў райцэнтры правялі мадэрнізацыю сістэмы асвятлення дзвюх цэнтральных вуліц светадыёднымі лямпамі.

**Расоны.** Падчас раскопак на фартэцыі "Сокал" археолагі-валанцёры знайшлі ўнікальны крыж перыяду Лівонскай вайны часоў Івана Грознага, які насіў камандзір стральцоў.

**Дубровна.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць пенсіянера, які моцна збіў 44-гадовага былога кватэранта сваёй маці з-за нібыта ўкрадзеных ім рагоў аленя з дома.

**Ушачы.** Іван Бакіноўскі з братам з фірмы "Гранітны свет" (Заслаўль) бясплатна вырабілі і ўстанавілі новыя помнікі на магілы бацькоў Васіля Быкава і ягонай сястры Валянціны.

**Полацк.** Падчас рэстаўрацыйных работ ля сцяны Спаса-Прэабражэнскай царквы знайшлі манастырскую пячатку Еўфрасінні Полацкай XII стагоддзя з выявай айчыннай асветніцы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Адышла ў вечнасць беларуская патрыётка Алеся Фурс (Умпіровіч), якая ў Савецкім Саюзе атрымала 25 гадоў за намаляваную «Пагоню»

**На 93-м годзе жыцця ў Паставах памерла Алеся Фурс (Умпіровіч). Жанчына на 25 гадоў перажыла камуністычную імперыю, якая кінула яе за краты.**

**Сёння ж "Пагоня" – герб Віцебскай вобласці, гарадоў Лепель, Верхнядзвінск, Рэчыца, элемент герба Магілёва, вёсак Смаляны і Ліпнішкі, была "Пагоня" і гербам Рэспублікі Беларусь. І пахавалі Алесю Фурс – з "Пагоняй"!**



Алеся Фурс (Умпіровіч) нарадзілася ў сялянскай сям'і, дзе было сямёра дзяцей. З маленства, дзякуючы сваёй цётцы Анэлі, выхоўвалася набожнай дзяўчынкай. Пачатковыя класы скончыла ў польскай школе, што знаходзілася ў роднай вёсцы Азярава, пасля хадзіла ў Паставы. Па прыходзе ў 1939 саветаў вучобу працягвала ў адчыненай беларускай школе ў Паставах. Да вайны паспела скончыць 6 класаў. Калі ўжо пры немцах Пастаўская школа аднавіла сваю працу, Алеся Умпіровіч нейкі час вучылася ў 7 класе.

Пасля таго як у Паставах адчынілася настаўніцкая семінарыя, Алеся Умпіровіч паспяхова здае туды экзамены і паступае на другі курс, нягледзячы на тое, што мясцовыя савецкія партызаны ўсялякімі сродкамі імкнуліся замінаць беларускаму школьніцтву ў часе нямецкай акупацыі

*«Партызаны спалілі школу ў Казянах, яны былі супраць таго, каб пад нямецкай акупацыяй вучыліся дзеці. Не магла, і цяпер не магу зразумець гэтага. Новае пакаленне не павінна было ўмець чытаць, пісаць. Ці цэлы народ трэба было пакінуць у цемры?»* – абуралася яна.

Сапраўднае загартаванне беларускасцю яна атрымала ў працэсе вучобы ў гэтай семінарыі, дзе выкладала цэлае суквецце такіх культурных дзеячоў беларускага адраджэння, як Барыс Кіт, Пётра Шчасны, Сяргей Мацука. У 1943 Алеся Умпіровіч уваходзіць у шэрагі Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ), які быў у гэты час створаны ў студэнцкім асяродку. «Было прывабна надзець эсбэмаўскую форму, хоць на прыдзірлівае вока, можа, і благую, пашытую з таннай тканіны. Мы з ахвотай маршавалі ў калоне па вуліцах Паставаў, спяваючы свае родныя песні. Не прапускалі ніводнага сходу, якойнебудзь імпрэзы, вечарыны, што праводзіліся ў нашай суполцы СБМ. Асабіста я і мае сябры разумелі СБМ толькі як асяродак, дзе гартаваліся патрыятычныя пачуцці моладзі, любоў да роднага, беларускага. Нічога не прышчаплялася нам нацыянал-фашыстоўскага, ніякай непрыязні да іншых людзей і народаў», – прыгадвае Алеся Умпіровіч (Фурс).

Чырвоную Армію ў ліпені 1944 сустрэла станоўча, спадзеючыся на вызваленне з-пад нямецкай няволі. Вучобу пры новай уладзе мусіла працягваць у адчыненай замест настаўніцкай семінарыі педагагічнай вучэльні. Праз нейкі час навучанне ў новастворанай установе прынесла расчараванне.

*«Педвучэльня ніколі не пераўзыходзіла семінарыю ні ў аб'ёмах, ні якасцю навучання. Наадварот, сярод выкладчыкаў былі людзі з нізкай кваліфікацыяй. На добры лад, чаму было не выкарыстаць тых спецыялістаў, хто меў высокую кваліфікацыю, хто працаваў раней у семінарыі. Зрабілі наадварот: іх арыштавалі. Апынуўся ў МГБ наш колішні дырэктар Пётра Шчасны. Дарма мы, навучэнцы, збіралі подпісы ў ягоную абарону, насілі ў МГБ. Як пасля высветлілася, на тагосяго з колішніх сяброў СБМ энкавэдысты пазаводзілі справы»,* – узгадвала Алеся Умпіровіч.

Усё больш месца ў выкладанні займала расейская мова, выцясняючы беларускую. Увесь гэты гвалт не мог не выклікаць у моладзі крыўды, не абудзіць нацыянальных пачуццяў. Якраз у гэты час у педвучэльні і паўстаў Саюз Беларускіх Патрыётаў (СБП). Алесі Умпіровіч давялося прысутнічаць пры самым заснаванні гэтай арганізацыі. Яна разам з сябрамі шыла для СБП бел-чырвона-белы сцяг. Па залічэнні ў сябры СБП 25 сакавіка 1946 Алеся Умпіровіч разам з іншымі маладымі патрыётамі-аднадумцамі бярэ ўдзел у прыняцці прысягі на вернасць Беларусі.

***«Рыхтуючыся да гэтай падзеі, я намалявала «Пагоню». Старалася за гэтай працай, як ніколі. Як бы кідала выклік тым, ад каго пакутавала, хто ненавідзеў гэты наш старадаўны герб»,*** – згадвала Алеся Умпіровіч.

Арыштаваная Алесю Умпіровіч 12 траўня 1948 г пад час хвалі студэнцкіх арыштаў і асуджаная на 25 гадоў мардоўскіх лагераў з 5-гадовым тэрмінам пазбаўлення правоў. Вызваленне прыйшло 17 чэрвеня 1956, пасля чаго разам з мужам Антонам Фурсам, які з'яўляўся адным з лідэраў СБП, жыла ў Казахстане.

У 1965 Алеся Умпіровіч (Фурс) удала скончыла Маскоўскі народны універсітэт мастацтваў і скарыстала тым самым свой даўны талент – здольнасць да малявання. Па выхадзе на пенсію ў 1982 сям'я Фурсаў вярнулася на радзіму, пасялілася ў Паставах. **Рэабілітаваная 23 лістапада 1992, ужо па атрыманні Беларуссю незалежнасці.** Брала ўдзел у напісанні артыкула ўспамінаў да кнігі «Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў».

**Яе няма, ляціць яе Пагоня!**

*Уладзімір Скрабатун.*



**На пахаванні Алесі Фурс. Злева – Антон Фурс, які быў сакратаром глыбоцкай падпольнай суполкі Саюза Беларускіх Патрыётаў, муж Алесі Фурс. Справа – сын Юры трымае Пагоню, намаляваную маці.**



# У вішнёвай сталіцы Беларусі ізноў расквітнелі вішні!

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Здаралася і раней, што ў жніўні «выкінецца» нейкае адзінае на ўсё Глыбокае суквецце вішні ды расквітнее.**

У мінулую сераду іду паўз прыватны сектар у раёне малочна-кансерваваа камбіната, па вул. Леніна, бачу ля дома №117 перад плотам — на адной, другой, трэцяй вішнях па два дзясяткі кветак. Паўсотні крокаў — ля дома №113, таксама перад плотам на вішні некалькі кветак. Перайшоў на цотны бок вуліцы, праз метраў 250, ля дома №112, на вішні — цэлае суквецце.

Год у нас сёлета нейкі анамальны! То ніколі ў ліпені не знаходзіў у лесе махавікоў, а толькі ў верасні, то лісічкі, раптам, выраслі там, дзе ніколі не раслі — аж жоўта. З аднаго месца — вядро! Вось і вішні расквітнелі ў жніўні і можна ладзіць паўторна вішнёвы фэст…

Восемдзесят год таму, у 1937 годзе таксама была цёплая пагодная восень. І ў Дзісенскім павеце другі раз расквітнелі каштаны, рабіны, вішні, грушы. Газета "Kurjer Wileński", Nr. 281 за 12.10.1937 паведамляла, што нейкі Апанасевіч у Глыбокім сабраў у сваім садзе другі ўраджай малін – каля кілаграма спелых ягад.

# У верасні адчыніцца авіярэйс з Віцебска ў Егіпет

**Ад 21 верасня ў міжнародным аэрапорце «Віцебск» з'явіцца новы авіярэйс – у Егіпет.**

Віцебскі аэрапорт, напэўна, упершыню стане абслугоўваць зімовыя чартары. Вылеты з Віцебска ў Хургаду, замоўцам якіх выступае турыстычнае агенцтва «Tez Tour» будуць даступныя да 9 студзеня. Авіяперавозчыкам стала кампанія «Белавія», якая збіраецца выкарыстоўваць на гэтых рэйсах самалёты «Boeing 737-800» з 200 пасажырскімі месцамі.

Відавочна, што разлік робіцца не на беларускіх турыстаў, якім не зусім па кішэні пагрэцца ўзімку на егіпецкім сонейку, а на расейцаў. Ад 2015 года ў Расійскай Федэрацыі дзейнічае забарона на палёты ў Егіпет.

Таксама ў пачатку лета ў аэрапорце «Віцебск» з'явіўся рэгулярны рэйс у Калінінград. Планавалася, што такія палёты па пятніцах і нядзелях працягнуцца да 8 верасня.

*Народныя навіны Віцебска.*

# Даходы насельніцтва Віцебскай вобласці, у параўнанні з леташнімі, упалі на некалькі адсоткаў

■ **Сяржук Серабро**

**У першым паўгоддзі 2017 года рэальныя наяўныя грашовыя даходы жыхароў Віцебскай вобласці склалі толькі 97,2% да ўзроўню такога ж перыяду мінулага года.**

Найбольшыя долі даходаў хатніх гаспадарак Віцебшчыны складаюць аплата працы (58,2%), пенсіі, стыпендыі і т. п. падобныя трансферты насельніцтву (28,8%), даходы ад прадпрымальніцкай і іншай дзейнасці, якія прыносіць даход (7,5%) і даходы ад уласнасці (5,5%), паведамляе Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Віцебскай вобласці.

Рэальныя наяўныя грашовыя даходы – гэта грашовыя даходы насельніцтва за вылікам падаткаў, збораў і узносаў, скарэкціраваныя на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі. Як ужо паведамлялася, згодна са статыстычных дадзеных да траўня 2017 года цэны на харчовыя тавары, у параўнанні з леташнімі, выраслі на 7,4%, а на паслугі — на 8,4%.



# Асеннія канікулы ў бягучым годзе ў беларускіх школах прадоўжацца 10 дзён

**Асеннія канікулы ў бягучым годзе ў беларускіх школах прадоўжацца 10 дзён, паведамілі БелТА ў прэсслужбе Міністэрства адукацыі.**

Адпачываць беларускія школьнікі будуць даўжэй, чым звычайна, дзякуючы таму, што ў гэтым годзе Дзень кастрычніцкай рэвалюцыі 7 лістапада выпадае на аўторак. Адпаведна асеннія канікулы пройдуць з 29 кастрычніка па 7 лістапада, гэта значыць 10 дзён.

*БелТА.*

# Маладыя ратавальнікі распавядалі аб правілах паводзін на вадзе

Акцыя «Летні патруль» праходзіць па ўсёй краіне і стала чарговым крокам у рэалізацыі Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж МНС і ГА «БРСМ» у частцы прапаганды ведаў у галіне бяспекі жыццядзейнасці, прыцягнення моладзі да аказання садзейнічання органам і падраздзяленням па надзвычайных сітуацыях.

Акцыя працягнецца да канца лета. У рамках акцыі «Летні патруль» работнікі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях сумесна з актывістамі БРСМ і прадстаўнікамі Асвода праводзяць рэйдавыя мерапрыемствы па месцах адпачынку грамадзян каля вадаёмаў. Каб адпачынак не скончыўся трагедыяй, усім адпачывальнікам у азёр «Бяглец» і «Мушкат» прыкметныя здалёк маладыя ратавальнікі распавядалі аб правілах паводзін на вадзе, тлумачылі, як паводзіць сябе ў выпадку неспадзяванай сітуацыі – у прыватнасці, алгарытм дзеянняў пры выратаванні тапельца чалавека і правілы аказання даўрачэбнай дапамогі пацярпеламу. Ратавальнікі яшчэ раз нагадалі дарослым, да якіх наступстваў можа прывесці невыкананне элементарных правілаў бяспекі, а асабліва купанне ў нецвярозым стане.

Асаблівы акцэнт «Летні патруль» зрабіў на бацьках, якія адпачываюць з дзецьмі. Татам і мамам нагадалі аб недапушчальнасці пакідання малалетніх дзяцей без нагляду ля вады. Усе адпачывальнікі атрымалі важныя веды, а таксама наглядна-выяўленчую прадукцыю.

*Глыбоцкі РАНС.*



Месца адпачынку – возера Мушкат.



Месца адпачынку – возера Бяглец.



Маладыя ратавальнікі нагадалі аб недапушчальнасці пакідання малалетніх дзяцей без нагляду ля вады.

■ Уладзімір Скрабатун

# У Малых Алашках на радзіме вядомага садавода Івана Сікоры прайшоў традыцыйны фэст «Яблычны Спас»

**У вёсцы Малыя Алашкі (Шаркоўшчынскі раён) на радзіме вядомага садавода Івана Сікоры прайшоў штогадовы ўжо традыцыйны фэст «Яблычны Спас», які прэтэндуе стаць міжнародным. Фэст сабраў некалькі соцен чалавек. Яго наведалі і замежныя госці з Расіі і Латвіі.**

У часе фэсту святары дабраславілі яблыкі. Усе прысутныя маглі паслухаць канцэрт, арганізаваны мясцовай самадзейнасцю, паўдзельнічаць у спаборніцтвах, набыць сувеніры ў народных майстроў і, вядома ж, пачаставацца яблыкамі Сікоравых сартоў.

Іван Сікора (1885—1966) — селекцыянер-аматар, заслужаны аграном БССР. Вывеў пяцьсот гатункаў яблыні, сто гатункаў ігруш, а таксама гатункі сліваў, бэзу, ружаў.

Трэба адзначыць, што "Яблычны Спас" набывае папулярнасць і ў глыбачан, тым больш, што жнівень – вольны ад вялікіх фэстаў месяц у Глыбокім.






# Перапіс насельніцтва Беларусі ў 2019 годзе правядуць без папяровых носьбітаў

**Перапіс насельніцтва Беларусі ў 2019 годзе будзе праведзены без папяровых носьбітаў – з выкарыстаннем планшэтаў. Аб гэтым паведаміла на прэс-канферэнцыі старшыня Нацыянальнага статыстычнага камітэта Іна Мядзведзева, перадае карэспандэнт БелТА.**



"Новаўвядзеннем перапісу-2019 з'яўляецца поўная адмова ад папяровых носьбітаў, выкарыстанне планшэтных камп'ютараў у мэтах аўтаматызацыі ўводу даных і падключэння сістэмы кантролю, - адзначыла кіраўнік Белстата. – Гэта дасць магчымасць забяспечыць высокую якасць запаўнення перапісных лістоў".

Паводле яе слоў, вядзецца работа з Нацыянальным банкам па магчымасці запаўнення перапісных лістоў і іх перадачы праз інтэрнэт.

"Прэзідэнтам пастаўлена задача максімальнага выкарыстання рэгістраў пры правядзенні перапісу, – нагадала Іна Мядзведзева. – Ва ўсе перапісныя лісты ўжо будзе загружана інфармацыя з рэгістра насельніцтва, Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва і іншых рэгістраў, якія існуюць у рэспубліцы. Гэта скароціць час на запаўненне перапіснога ліста".

Асноўная задача перапісу – атрымаць неабходную інфармацыю аб насельніцтве для распрацоўкі напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, правядзення дэмаграфічных і сацыяльных даследаванняў, прагназавання колькасці складу насельніцтва, аптымальнага размеркавання і выкарыстання працоўных рэсурсаў.

*БелТА.*

# Увага! Праца ў ахоўнай зоне ліній электраперадачы без нарада-допуску можа стаць апошняй

■ **А. В. Сіўко,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе.*

Забеспячэнне бяспечнага і бесперабойнага электразабеспячэння спажыўцоў – задача, якая патрабуе ўстанаўлення спецыяльнага рэжыму аховы электрычных сетак і яго няўхільнага выканання ўсімі прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі і грамадзянамі.

Правіламі аховы ліній электраперадачы ўсталявана кола асноўных метадаў іх аховы, асноўныя з якіх гэта ўстанаўленне ахоўных зон і мінімальна-дапушчальных адлегласцей да будынкаў, збудаванняў, зямной і воднай паверхні, машын і механізмаў, а таксама забарона вытворчасці работ, якія могуць прывесці да электрычных траўмаў якія працуюць або пашкоджанняў электрычных сетак.

Правіламі вызначаны прававы рэжым ахоўных зон ліній электраперадачы ў адпаведнасці з арт. 20.3 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Невыкананне правілаў работы ў ахоўных зонах ліній электраперадачы заўсёды прыводзяць да няшчасных выпадкаў, у тым ліку са смяротным зыходам.

*Так 25.07.2017 года каля 18 гадзін пры вытворчасці будаўнічых работ з ужываннем аўтамабільнага крана быў смяротна траўмаваны работнік ПГУП «Эльдарада». Па папярэдняй інфармацыі аўтамабільны кран, які належыць ПГУП «Эльдарада», не маючы дазволу на вытворчасць работ у ахоўнай зоне ВЛ-10 кВ №5819 ад ПС-110 кВ «Волатава» ў пралёце апор 17-18, з мэтай уздыму бетоннага кальца з калодзежа, быў усталяваны ў непасрэднай блізкасці да ВЛ-10 кВ. Вертыкальная вось уздыму бетоннага кальца знаходзіцца на адлегласці менш за 1м ад крайняга провада ВЛ. Пацярпелы выконваў страпоўку бетоннага кальца ў той момант, калі машыніст наблізіў стралу альбо тросы крана на недапушчальную адлегласць да ВЛ-10 кВ №5819. У выніку прабоя паветранага прамежку паміж ВЛ і механізмам крана пацярпелы быў смяротна траўмаваны электрычным токам.*

Для забеспячэння бяспечных умоў работ у ахоўных зонах паветраных ліній электраперадачы неабходна арганізаваць работы па нарадзе-допуску, узгодненаму з уладальнікам электрычных сетак, правесці інструктажы, якія працуюць, выканаць зазямленне машын і механізмаў на пнеўматычных колах.

Работы ў ахоўнай зоне паветранай лініі павінны выконваць не менш, чым два чалавекі, адзін з якіх назіральнік. Праезд машын і механізмаў пад правадамі паветранай лініі па прасёлкавых дарогах і па-за дарог рэкамендуецца рабіць паблізу апор і папярок восі. Пры гэтым вышыня машын не павінна перавышаць 4,5 м. Абслуговаму персаналу забараняецца знаходзіцца на машыне па-за кабінай або ахоўнага брыля, выконваць рамонтна-прафілактычныя работы на машыне, працаваць пры набліжэнні ці ў час навальніцы.

30 м
і больш

Пры падзенні провада паветранай лініі на машыну або сутыкнення машыны або механізму з провадам, а таксама пры ўзнікненні паміж провадам і машынай электрычнага разраду забараняецца якая-небудзь далейшая праца на гэтай машыне. У названых выпадках кіроўца, не вылазячы з кабіны, павінен неадкладна спыніцца. Калі пры гэтым можна вызваліцца ад абарванага провада перасоўваннем машыны, то неабходна гэта зрабіць як мага хутчэй. У выпадку адсутнасці такой магчымасці назіральнік павінен паведаміць пра здарэнне ўладальніку электрычных сетак і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні вадзіцель, ні назіральнік не павінны прымаць ніякіх самастойных дзеянняў.

Калі ў выніку падзення провада паветранай лініі або ўзнікнення электрычнага разраду машына загарыцца, то абслугоўваючы персанал павінен неадкладна яе пакінуць, але так, каб не было адначасовага сутыкнення чалавека з корпусам машыны і зямлёй. Лепш за ўсё саскочыць на зямлю на абедзве стуленыя ногі, не трымаючыся за машыну, а аддаляцца ад яе можна толькі скачкамі на адной або дзвюх злучаных разам нагах да зняцця напружання або на адлегласць 8-10 метраў.

Да прыбыцця спецыяльнай брыгады забараняецца прадпрымаць якія-небудзь дзеянні па пажаратушэнні машыны, пры гэтым неабходна арганізаваць ахову месца здарэння. Пры пашкоджанні паветраных ліній, абрыве правадоў неабходна тэрмінова паведаміць дзяжурнаму персаналу электрычных сетак адміністрацыйнага раёна.

Паважаныя кіраўнікі! Патрабуйце ад падначаленага персаналу выкананне патрабаванняў па арганізацыі бяспечнай працы ў электраўстаноўках і ў ахоўных зонах ліній электраперадачы. Прыміце меры па актывізацыі масава-растлумачальнай работы сярод свайго персаналу аб небяспецы электрычнага току пры дакрананні да аб'ектаў, якія знаходзяцца пад напружаннем, набліжэнне да абарваных правадоў.

Памятайце! Толькі правільнае абыходжанне з электрычнай энергіяй гарантуе бяспеку жыцця людзей.

## Сярэдні заробак у Польшчы перасягнуў тысячу еўра

**Сярэдні заробак у Польшчы ў ліпені вырас на 4,9% у параўнанні з аналагічным перыядам у мінулым годзе. Пра гэта праінфармавала Галоўнае статыстычнае ўпраўленне.**

Па звестках ведамства, сярэдняя зарплата ў ліпені склала 4 тыс. 502 злотых, або 1 тыс. 54 еўра.

Акрамя таго, аналітыкі Галоўнага статыстычнага ведамства адзначаюць, што занятасць у прадпрымальніцкім сектары ў ліпені вырасла на 4,5% у параўнанні ў мінулым годам.

*«Гэта сведчыць аб тым, што сітуацыя на рынку працы спрыяе работнікам. Фірмы ў далейшым хочуць працаўладкоўваць людзей, хоць часам маюць праблемы з тым, каб знайсці адпаведныя кадры»,* – адзначыў эканаміст банка Bank Zachodni WBK Пётр Бялецкі.

Эксперт мяркуе, што інфармацыя пра ўзровень заробатнай платы павінна быць ацэненая станоўча. Пры гэтым эканаміст падкрэсліў, што гэтыя лічбы аднясяцца толькі да пэўных сфер эканомікі.

*nn.by*

## Зарплата ў сацыяльнай сферы будзе расці і ў наступным годзе

**Настаўнік, урач і іншыя работнікі сацыяльнай сферы павінны атрымліваць дастойную заработную плату. Аб гэтым заявіў намеснік прэм'ер-міністра Васіль Жарко 20 жніўня ў праграме "Галоўны эфір" на тэлеканале "Беларусь 1", паведамляе БЕЛТА.**

*"Прэзідэнт Беларусі паставіў задачу па павышэнні заработнай платы бюджэтнікаў. Урад гэту задачу разумее і прыкладае ўсе намаганні, каб яе выканаць, - запэўніў віцэ-прэм'ер. – Мы абавязаны не спыняцца на дасягнутым і ў наступным годзе падняць зарплату яшчэ вышэй, наблізіць да сярэдняй па прамысловасці".*

*Сярэдняя зарплата настаўнікаў невялікая (у чэрвені – Br658). "Хацелася б, каб яна была Br800-1000. Таму ўсё робіцца для таго, каб эканоміка працавала эфектыўна і была магчымасць павысіць узровень заработнай платы ў сацыяльнай сферы",* – падкрэсліў Васіль Жарко.

*БелТА.*

## Беларус выйграў у анлайн-гульні $2,4 мільёнаў

**Гулец з Беларусі выйграў рэкордны джэк-пот у анлайн-гульні «Востраў мільянераў» ад PokerStars Casino. Сума склала больш за 2 439 369 даляраў і 27 цэнтаў, паведамляе сайт online.casinocity.com.**

Джэк-пот быў сарваны нашым суайчыннікам, які пажадаў застацца невядомым, у сераду 26 ліпеня. Адбылося гэта ўсяго толькі праз 3 дні пасля таго, як ён зарэгістраваўся ў гульні.

«Выспа мільянераў», або Millionaires Island па-ангельску, — адна з мноства анлайн-гульняў у інтэрнэце, якія імітуюць гульнявы аўтамат — так званага «аднарукага бандыта».

Мэта гульні — круцячы тры барабаны з 15 знакамі, сабраць пры іх спыненні выйгрышную камбінацыю. Чым лепшая камбінацыя, тым большыя прызавыя.

«Выспа мільянераў» — гульня з прагрэсіўным джэк-потам. Гэта значыць, ён пастаянна расце за кошт працэнта, які бярэцца з грошай, атрыманых ад усіх удзельнікаў.

*myfin.by*

## МНС інфармуе
**на 22.08.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 443;
Гібель людзей – 57, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

## Полацкія памежнікі затрымалі нелегала з Ірака

**Полацкія памежнікі затрымалі грамадзяніна Ірака, які хацеў перабрацца ў Латвію.**

Раніцай 12 жніўня ў Мёрскім раёне ў трох кіламетрах ад мяжы з Латвіяй полацкія памежнікі затрымалі невядомага мужчыну. Затрыманы паведаміў, што ён грамадзянін Ірака. 38-гадовы мужчына не хаваў сваіх намераў незаконна перасекчы мяжу ў Латвію, паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага памежнага камітэта. Мужчына затрыманы да высвятлення асобы. У дачыненні да яго распачаты адміністрацыйны працэс за незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы, парушэнне пагранічнага рэжыму і правілаў знаходжання на беларускай тэрыторыі. Праводзіцца разбіральніцтва.

*gpk.gov.by*



